Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 19 (73) Чацьвер, 30-га Красавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego” pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр.
на апош. стар.— 5 гр.

## Болей увагі.

Апошнім часам увага кіруючых кругоў адцягнена была на заграничныя справы, дзеля таго, што нямецкая пагроза заходнім граніцам Польскае Рэспублікі выклікала некаторую настарожанасьць сярод усяго грамадзянства.

Але нямецкая заборчасьць, скірованая на Польшчу, не магла прайсьці міма суседняе Чэхаславацкае Рэспублікі, прысьпяшыўшы можа прыезд у Варшаву чэхаславацкага міністра Бэнэша і падпісаньне пэўнага польска-чэхаславацкага паразуменьня.

Гэткім чынам адцягнена была болей моцная і позытыўная ўвага урадовых кругоў ад унутраных справаў Рэспублікі і галоўнае—ад справаў яе ўсходніх рубяжоў.

Ці зроблена што рашуча і цьвёрда ў кірунку рэалізацыі хаця-бы нашых беларускіх культурна-прасьветных жаданьняў?

Наадварот. Справа ўрадовых настаўніцкіх курсаў заглохла зусім, хаця гутаркі і навет вельмі паважныя аб ёй пачаліся паўгода назад.

А тая ўвага, якую праявілі да ўнутраных дзяржаўных справаў у Наваградчыне ўлады, робячы масавыя вобыскі направа і налева, можа быць названа з нашага нацыянальнага пункту ўвагаю нэгатыўнага характару, бо ў барацьбе там з антыдзяржаўнаю акцыяю адміністрацыя дзеяла без разбору.

Нярaз мы заяўлялі, што аднабокім рэпрэсыйным способам ліха ў нашым краі вывесьці немагчыма. Мусяць для гэтага быць робленымі пэўныя позытыўныя крокі ў кірунку належнае ўвагі да нацыянальных патрэбаў нашага насяленьня.

Незразуменьне ўсяго гэтага ўладамі тамуе працу беларускіх лёяльных арганізацыяў і ўносіць некаторы разнабой у іхні ўнутраны парадак. Слабыя нацыянальным духам адзінкі, (як гэта здарылася ў Часовай Беларускай Радзе) зьневяраюцца ўва ўсім і адлятаюць у бок, мяшаючы ўсю вагу нацыянальнае справы са сваімі асабістымі непаразуменьнямі.

Далей няяснае палажэньне нашага нацыянальнага пытаньня гэтак цягнуцца ня можа. Дзяржаўная польская думка гэтага пытаньня абмінуць ня можа, бо выкрасьліць беларусаў з межаў Рэспублікі нельга дый не ў інтарэсах гэтае, як гаспадарства.

Мусіць быць накрэсьлена выразная, плянова правадзімая праграма, як у адносінах да нас, так і да большых па ліку украінцаў.

Тады толькі пайдзе шырокімі крокамі разьвівацца ў масах той рэальны кірунак беларуска-украінскае палітычнае думкі, які ўжо ў народных масах зарадзіўся, пагражаючы згубай грунту ў народзе для тых, хто з вышыні парлямэнцкага прадстаўніцтва гэтых нацыянальнасьцяў задаўся мэтаю нясьці сваім выбаршчыкам прапаганду обструкцыйнасьці і ідэю нятворчага нацыянальнага радыкалізму ў імя самога радыкалізму.

Найбольш абястварaныя і заняпаўшыя, дзякуючы нівэляваўшаму іх на маскоўскі капыл расейскаму царызму, беларусы і украінцы ў сваёй народнай гушчы адсьвечваюць чужым сваёй сялянскай прыродзе сьвятлом тых проста пэрсонаў, якія дабраліся да шырокае палітычнае арэны падчас першых выбараў у законадаўчыя установы дзяржавы. Аднакжа хоць і туга сьвятло гэтае ідзе да паніжэньня. Жонглерства пустымі, хоць і гучнымі фразамі, з Соймавай трыбуны нічога рэальнага народным масам не дае, таму што ў фразах гэтых няма навет і завязі чаго-нібудзь творчага.

Радыкалізм так і застанецца для самога сябе ў радох адзінак, прэтэндуючых на імёны нацыянальных героуў. Трывалыя нацыянальныя здабыткі, дазволеныя кіруючымі кругамі згары, засталіся-б здабыткамі народных масаў, як цэласьці.

І дзеля гэтага пара, нарэшце, зразумець, як польскім уладам, такнай і ўсяму польскаму грамадзянству, вагу цьвярозых цячэньняў беларускае і украінскае палітычнае думкі, пара ім прадягнуць братнюю руку шчырага супрацоўніцтва над аздараўленьнем крэсовых адносін.

А крэсовая адміністрацыя павінна навучыцца глядзець на праявы палітычнага і культурна-нацыянальнага жыцьця беларусаў і украінцаў ня толькі праз акуляры штучна прышчэпленага ёй польскага нацыяналізму, а проста вачыма цьвёрдага слугі законнасьці, які ставіў-бы агульнадзяржаўны інтэрас вышэй за інтарэсы тае ці іншае польскае партыйнасьці.

Нельга лёгкаважыць інтарэсаў дзьвюх славянскіх нацыянальнасьцяў, якія зьяўляюцца найбольшымі нацыянальнымі меншасьцямі ў агульных межах Польскае Рэспублікі і нельга ігнараваць іхняга законнага права.

Болей увагі да гэтага права, болей рэалізму ў правядзеньні ў жыцьцё нашых набалеўшых жаданьняў! І само сабою ўнармуецца жыцьцё ў рубяжох расьсяленьня беларусаў і украінцаў.

## Нямецкім прэзыдэнтам — Гіндэнбург.

ПАТ перадае з Бэрліну, што згодна з офіцыяльным паведамленьнем фэльдмаршал Гіндэрбург выбраны прэзыдэнтам Нямецкае Рэспублікі. Рэзультат выбараў гэткі: Гіндэнбург адтрымаў 14.639.927 галасоў, Маркс—13·740.489 і Тэльман (камуністы)—1.789.420 галасоў.

## Палітычны агляд.

У суботу перад праваслаўным Вялікаднем у сталіцы Баўгарыі, Софіі, была страшэнная катастрофа, якой не памятае гісторыя. У часе жалобнай паніхіды па забітым камуністымі дэпутаце Мілеву ў катэдральным саборы разарвалася пякельная машына, якой забіта 150 чалавек і ранена больш як 400. Гэты пастулак баўгарскіх камуністых, кіраваных маскоўскімі бальшавікамі, таксама як і рэвальскія падзеі 1 сьнежня мін. году, зьяўляецца нарывам, які павінен адкрыць вочы Эўропы на небясьпеку камунізму і з другога боку—павінен давясьці да дзяржаўнага аздараўленьня Баўгарыі, заражанай камунізмам.

Энэргічна пачатае сьледзтва справы выясьніла падрабязнасьці няўдаўшагася ў Баўгарыі дзяржаўнага перавароту. Усім кіраваў цэнтральны камуністычны камітэт у Софіі, на чале якога стаяў Янкоў і яго памоцнік Мількоў, абодва быўшыя афіцэры. Спачатку было пастаноўлена забіць караля, і гэта павінна было быць сыгналам да агульнага паўстаньня. На тры дні перад катастрофай у саборы банда з 10-цёх чалавек напала на самаход, у якім ехаў кароль, але караля не ўдалося забіць. Нападаўшых не злавілі. На другі дзень у Софіі няведамы ліхадзей забіў дэпутата палаты палкоўніка Мілева. Як першаму, так і другому здарэньню не давалі вялікага значэньня, ня думаючы, што тут ёсьць сарганізованы плян, які меў на мэце зрабіць дзяржаўны пераварот. І калі ў суботу 18 красавіка сабраўся на паніхіду ў саборы ўвесь гэнэралітэт, міністры, дэпутаты палаты і вышэйшыя ураднікі, і толькі выпадкова ня было караля, камуністыя пастанавілі правясьці ў жыцьцё свой плян, каб адным махам зьніштожыць увесь урад і зрабіць паўстаньне. Камуністы Мількоў сам зладзіў пякельную машыну з самага сільнага ўзрыўнага матар'ялу, мілініту, і, ўгаварыўшыся са званаром сабору, паставіў яе на саборнай вежы. А калі ў саборы пачалася паніхіда і ўсе ўжо сабраліся, зрабіўся страшэнны ўзрыў. Паміж забітымі ёсьць 3 дэпутаты палаты, 13 гэнэралаў, 8 палкоўнікаў, 2 адвакаты, 19 жанчын і 7 дзяцей. Шмат ёсьць раненых міністраў. Міністар справядлівасьці, міністар унутраных справаў і начальнік галоўнага вастрогу памёрлі на другі дзень ад ранаў. Ня гледзячы на страшэнны перапалох, старшыня міністраў, Цанкоў, ня страціў духа і зараз-жа загадаў, каб былі зроблены меры асьцярожнасьці.

На над'звычайным паседжаньні міністраў з учасьцем караля было пастаноўлена ўвесьці асаднае палажэньне ўва ўсім краі і над'звычайныя ваенныя суды, якія заразжа павінны пачаць сваю дзеяль-

насьць. Зроблена шмат вобыскаў і арыштаў, у часе якіх удалося раскрыць падгатаўляўшыся плян перавароту. Устаноўлена, што агульнае паўстаньне мелася пачацца 15 красавіка. Ваенныя суды ўжо засудзілі на сьмерць больш як 400 чалавек і ня спыняюць свае працы. Забойцу дэпутата Мілева, як аказалася, нехта забіў на тым самым месцы, дзе быў забіты дэпутат Мілеў.

Софійская катастрофа зрабіла вялізнае ўражаньне за граніцай. Пасьля гэтай трагэдыі, меўшай гэтулькі ахвяр, у Парыжы і Лёндане, а таксама ў Белградзе і Букарэшце, здаецца, пачынаюць ужо разумець, як былі несправядлівы легкамысна адносіўшыяся да просьбаў баўгарскага ўраду аб помачы проці бальшавіцкае небясьпекі. Бальшавікі, як ведама, пасьля няўдачы ў Нямеччыне, Вэнгрыі ды інш. дзяржавах, зьвярнулі ўсю сваю ўвагу на Балканы, а асабліва на Баўгарыю, як меўшую найлепшы грунт дзеля камуністычнае дзеяльнасьці. Пасьля няўдачнай вайны ў Баўгарыі праз увесь час трывае нездаволеньне тэй партыяй, якая ўцягнула Баўгарыю ў вайну. Гэта нездаволеньне еярод сялян і камуністых узмацавалася пасьля правалу сялянскага ўраду Стамболійскага, які амаль што не давёў край да бальшавізму. Ад гэтай пары пачаўся тэрор проці ўраду і ўжо было колькі спробаў скінуць урад. На падставе мірнага трактату, падпісанага ў Нэйлі, Баўгарыя, як пераможаная, ня мае права мець армію большую за 30.000 чалавек. Гэткая армія пры насяленьні 4.800.000 жыхароў, пры гэткіх настроях у краі, надта малая, каб падтрымаць парадак у дзяржаве. Баўгарскі ўрад няраз зьвяртаўся да саюзьнікаў з просьбай аб дазволе павялічыць армію, а таксама да суседніх Югаславіі і Румыніі, зьвяртаючы іхнюю ўвагу на бальшавіцкую небясьпеку, але ўсе былі глухія на гэтыя просьбы. Юга-Славія і Румынія, ня гледзячы на тое, што самі знаходзяцца пад бальшавіцкай небясьпекай, як звонку, гэтак сама і ўнутры, не маглі згадзіцца, каб Баўгарыя павялічыла армію, бачачы ў гэтым небясьпеку для сябе. І толькі ў апошні час перад самым софійскім узрывам, рада паслоў дазволіла павялічыць баўгарскую армію на 3.000 чалавек.

*N.*

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

23 гэтага красавіка ў прэзыдыуме рады міністраў адбылося падпісаньне польска-чэхаславацкіх дагавораў. Гандлёвы дагавор ад імя Чэхаславакіі падпісаў міністар Бэнэш, прыехаўшы ў Варшаву, а з боку Польшчы — міністры Скржынскі і Кедронь.

У адміністрацыйнай камісіі Сойму перад далейшым абгавараваньнем валаснае выбарчае ардынацыі, старшыня пас. Путэк (Wyzwolenie) прачытаў больш як сто пэтыцыяў, прысланых паасобнымі валаснымі радамі, якія выказваюцца за роўнасьць выбарчага права.

Сэнат прыняў закон аб ратыфікацыі конкордату з Ватыканам і рад рэзалюцыяў.

Констытуцыйная соймавая камісія прыступіла да дыскусіі над законам аб сабраньнях. Асаблівая спрэчка завязалася над арт. 2 і 3 аб сабраньнях, скліканых пад голым небам. Выбрана падкамісія дзеля ўрэгуляваньня дзьвюх спрэчных пастановаў.

„Echo Warszawskie” падае цікавыя падробнасьці справы паслоў Украінскага клюбу п. п. Васыньчука, Чучмая і Сяргея Казіцкага, якая назначана на разгляд у Роўненскім Акружным Судзе 6 траўня гэтага году. Абвінавачаныя злажылі ў суд прашэньне аб вызаве, як экспэртаў па справах нацыянальных меншасьцяў п. п. Лёйд-Джорджа (б. ангельскі прэм'ер, лідэр лібэралаў), Макдональда, Гэндэрсона (лідэр ангельскае рабочае партыі) і Пэнлевэ (цяперашні прэм'ер-міністар Францыі). У сьпіску сьведкаў, маючых сьцьвярдзіць, што Польская констытуцыя абавязвае толькі на паперы, фігуруюць прозьвішчы прэм'ера п. Грабскага і міністра Ратайскага. Газэта дадае, што Пракурорскі Урад замерваецца зрабіць прапазыцыю аб вызаве ў суд спэцыялістых па псыхічных хваробах д-роў Нэлькэна і Радзіваловіча.

25 гэтага красавіка падаўся ў адстаўку міністар зямельных рэформаў п. Копчынскі, на месца якога цяпер назначаны п. Радван віцэ-прэзэс Галоўнае Зямельнае Камісіі.

**За граніцай.**

У **Францыі** быўшы прэм'ер-міністар Эрыё 266-ма галасамі з 267 галасаваўшых быбраны маршалкам парлямэнту.

З **Мадрыду (Гішпанія)** перадаюць, што паліцыя трапіла на сьлед згавору ў Малазе проці гэн. Прымадэ-Рывэра.

У **Японіі**, ў зьвязку з раскрытым згаворам, меўшым на мэце забойства прэм'ер-міністра Като, зроблена шмат арыштаў.

Баўгарскія падзеі зрабілі моцнае ўражаньне ў **Швэцыі**. Прэса трэбуе скліканьня міжнароднае конфэрэнцыі з мэтаю пачаць барацьбу проці бальшавіцкае небясьпекі.

У **Англіі** старшыня міністраў Бальдуін запрапанаваў лёрду Бальфуру ўвайсьці ў склад ураду на пасаду канцлера. Лёрд Сальбэры, які займаў дасюль гэтую пасаду, мае быць намесьнікам Кэрзона на пасадзе лёрда-прэзыдэнта тайнае рады.

**Француская** палата дэпутатаў 304 галасамі проці 218 прыняла вотум даверыя да ўраду Пэнлевэ.

З **Брусэлю (Бэльгія)** паведамляюць, што Вандэрвэльду не ўдаецца сфармаваць кабінэт. Правыя партыі парлямэнту не згаджаюцца з праграмай будучага ўраду дзеля таго, што Вандэрвэльд выстаўляе соцыялістычную выбарчую праграму.

Паводлуг вестак з Белграду, **баўгарскія** ўцекачы, якім удалося ўцячы за граніцу, расказваюць, што на ўсёй лініі ад Софіі да Царыброду пачалася паўстаньне. Насяленьне пораганяла дзяржаўных вурадцікаў і выбрала сваіх прадстаўнікоў. Узрыў, зроблены ў сафійскім саборы быў, як відаць, сыгналам да агульнага паўстаньня.

З **Лісабону (Партугалія)** паведамляюць, што паўстаўшыя там афіцэры арыштованы. У апошніх спатычках 13 чалавек забіта і 73 ранена. Урад пастанавіў распусьціць паўстаўшыя аддзелы, якія налічвалі 1200 чалавек. Рабочыя, што ўваходзяць у конфэдэрацыю працы, зрабілі контрманіфэстацыю. Рэвалюцыянэры безрэзультатна атакавалі казармы рэспубліканскае гвардыі, куды перабраўся ўрад. Чугуначны рух адноўлены. Ува ўсім краі спакойна.

З **Канстантынопалю** надыйшлі весткі, што ў Дыярбэкіры павешаны 43 чалавекі, абвінавачаныя ў паўстаньні **курдаў**. Засуджаны на сьмерць шэйх Саід—павадыр курдаў.

# Чарговая перадзержка.

У № 26 „Бел. Долі“ ёсьць пісьмо пасла кс. Станкевіча, дзе ён піша літаральна наступнае:

„Паважаны гр. Рэдактар! Не адмоўце ў „Сял. Долі“ надрукаваць некалькі слоў. У „Dz Wil.“ 16.IV. 1925 г. зьмешчана вестка, што быццам п. п. Аляксюк і *Паўлюкевіч* стараюцца паразумецца ў справе адзінага беларускага фронту з некаторымі беларускімі дзеячамі, а між імі і са мной. Вось-жа, што да маей асобы, гэтым падаю да публічнага ведама, што з п. п. Аляксюком і Паўлюкевічам, каторых дзеяльнасьць лічыў і лічу школнай для Беларускага народу, ня маю нічога супольнага і іх зварот да мяне дзеля нейкай супольнай працы, калі-б такі і здарыўся, быў бы зусім недарэчны

з пашанай Кс. Ад. Станкевіч“.

Падхваціўшы на лёце і са смакам друкуючы гэтыя „некалькі слоў”, рэдакцыя „Бел. Долі” зьмяшчае іх пад загалоўкам „Спэкуляцыя імёнамі беларускіх дзеячоў“ і дабаўляе з свайго боку: „на якія psie sztuki... кідаецца.. п. Паўлюкевіч“.

А каб усім было ясна, якія ёсьць psie sztuki і хто фактычна на іх кідаецца, падаю (так сама літаральна) заметку „Dz. Wil.“ 16. IV. 25 г. „O jednolity front”:

„Jak nas informują, znany białoruski działacz p. Aleksiuk, nie tracąc łączności z dr. Pawlukiewiczem, **stara się** porozumieć z dyrektorem gimnazjum białoruskiego p. Ostrowskim, ks. Stankiewiczem i posłem Taraszkiewiczem w celu stworzenia jednolitego frontu białoruskiego”.

Кожнаму пісьменнаму чалавеку ясна, што ў заметцы гэтай няма ніводнага слова аб маім нібыто звароце да п. Станкевіча, з мэтай тварэньня якогась „супольнага фронту“.

# Бібліяграфія.

**„Беларускі правапіс“.** Паводле Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка скомпіляваў Р. Астроўскі. Віленскае Выдавецтва Б. А. Клецкіна. Беларускі Аддзел. Вільня 1925 г.

У захапленьні віхрам нацыянальнае палітыкі, шмат якія нашыя культурныя сілы пакідаюць пустыя адлогі на культурнай нашай ніве. Прыемна ад'значыць гэтак адчуваны дасюль па сваёй адсутнасьці беларускі сынтаксыс, скомпілёваны грамадзянінам Р. Астроўскім і выданы саўсім прыгожа Выдавецтвам Клецкіна.

Аўтор дае ў пачатку вельмі патрэбную, — як для настаўніцтва ў школах, так і пры саманавучаньні, — прадмову, тлумачачы, як найлепей можна карыстацца гэтым падручнікам (галоўным чынам) у школе. Падобнае прадмовы бракуе дасюль у граматыцы Тарашкевіча.

Ня шкодзіла-б да гэтага, паводлуг данага некалі В. Ластоўскім прыкладу, дадаць у канцы кніжкі маленечкі слоўнічак, вытлумачваючы тыя словы, якія могуць быць незразумелымі навет і для кожнага беларускага настаўніка. Думаецца нам, што гэткіх словаў набралася-б ня шмат. Аднак гэткія провінцыялізмы, як **махнуша** (стр. 17), **ключначка** (66), **венцер** (84) **жыбулькі,** — зьяўляюцца бязумоўна незразумелымі большасьці настаўніцтва. Магчыма вельмі, што «махнуша» надрукована замест «макнуша» ад словаў — *мокры, мачыць* (сказ: «Адна махнуша не гарыць, а цьмее» ў практыкаваньні 8). Бо карэктура кніжкі (гэты наш нязводны беларускі грэх!) нажаль, як для падручніка, вельмі і вельмі благая. А з гэтым словам «ключнака» — карэктурная памылка выступае саўсім ясна, бо ў прыведзеным на 66 стр. (практыкаваньне 3) сказе ёсьць для гэтага слова рыфма, якая выясьняе карэктарскі грэх: «*Ойчанька мой родненькі, да ўбяром мы ключаначку да паставім на ганачку*».

Найлепшым лякарствам, каб беларуская кніжка-падручнік выходзіла бяз прыкрых карэктурных «струпоў» мы лічылі-б карэктаваньне яе, па магчымасьці, колектыўнае на чале з аўторам, бо йначай заўсёды можа здарыцца, што недапусьцімая для падручніка карэктурная слабасьць будзе яго абніжаць пры практычным ужываньні, як настаўнікамі, так і вучнямі.

У кніжцы грам. Астроўскага спатыкаем гэтулькі карэктарскіх недаглядаў, што аб іх варта спомніць, проста іх пералічыўшы, што мы і пастараемся зрабіць крыху ніжэй.

Скупасьць на практыкаваньні ў граматыцы Тарашкевіча з гарой папоўнена грам. Астроўскім, і наагул выйшаўшы з-пад яго рук падручнік не раўня патугам Я. Станкевіча, «Беларускую *правапісь»,* якога чакае, пасьля новага навукова і ўмела апрацованага падручніка «правапісу Астроўскага», антыкварская палічка.

Трапляюцца ў кніжцы русіцызмы—*говар* (говор) *прыволье* (приволье)—(стр. 17, 28, 73), узятыя з вершаў нашых поэтаў разам з іхнімі цэлымі сказамі; *пар* замест беларускага *пара* ніколі беларусамі ня ўжываецца («Як лёгкі дым, як лёгкі *пар,* расталі ў небе кучы хмар»).

Бароначы чыстату роднае мовы, можна было-б падобныя ўзоры «поэтыцкай» творчасьці ў падручніку апусьціць. Таксама кідаецца ў вочы шчыры полёнізм *кашулька*, замест беларускага слова *сарочка*, якое ўжываецца на самым захадзе этнографічнай Беларусі і адпавядае польскаму — koszula і расейскаму — рубаха.

Есьць і небеларускія пабудаваньні сказаў: „*Трэба дбаць... на хату*“, замест «*аб хаце*» (аб чым, а не на што?); «Змалочанае

